ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (54) верасень 2015 год

CATHOLICNEWS.BY

## У Мядзеле адзначылі 250-годдзе Кальварыі



Рэпартаж з падзеі чытайце на стар. 8 – 9.

## Ксёндз-матацыкліст блаславіў байкераў

Ксёндз Андрэй Аніскевіч з Лепеля стаў адным з арганізатараў свята байкераў

Стар. 3

## Беларусы ў Іспаніі: дарогамі святога Якуба

Беларускія дзяўчаты Ганна і Кацярына прайшлі шляхам апостала Якуба

Стар. 6 – 7

## Ці можа католік удзельнічаць у палітычным жыцці краіны?

Адказ чытайце на стар. 13







Каталіцкі ВЕСНІК
№9(54)
верасень 2015 г.

# Папа прыняў новыя нормы “сужэнскага працэсу”



**Папа Францішак зацвердзіў змены, якія датычацца паскарэння кананічнага працэсу прызнання несапраўднасці сужэнства. 8 верасня ў Ватыкане былі апублікаваны і прадстаўлены два адпаведныя Апостальскія лісты ў форме “Motu proprio”: “Mitis Iudex Dominus Iesus” (Лагодны суддзя Пан Езус) для “Кананічнага права Касцёла” і “Mitis et misericors Iesus” (Лагодны і міласэрны Езус) для “Кодэкса канонаў Усходніх Касцёлаў”.**

Святы Айцец пастанавіў, што для прызнання несапраўднасці сужэнства будзе дастаткова рашэння суда першай інстанцыі. Раней аднолькавы вердыкт павінны былі вынесці па меншай меры касцельныя суды дзвюх інстанцый, а ў некаторых выпадках патрабавалася рашэнне трэцяй – звычайна Трыбуналу Рымскай Роты.

Адным з новаўвядзенняў стала магчымасць правядзення так званага “кароткага працэсу”, калі несапраўднасць сужэнства пацвярджаецца відавочнымі аргументамі і ў суд звяртаюцца абодва бакі.

Канчатковае рашэнне ў такіх справах можа выносіць сам дыяцэзіяльны біскуп. Але ён можа таксама перавесці справу ў “звычайны працэс”. На рашэнне біскупа можа падавацца апеляцыя. Ён мае права таксама прызначаць адзінага суддзю, прадстаўніка духавенства, калі ў дыяцэзіі няма магчымасці стварыць суд.

Святы Айцец лічыць, што судовыя працэсы павінны быць бясплатнымі, “каб Касцёл, паказваючы сябе шчодрай маці для вернікаў, у пытанні настолькі блізка звязаным са збаўленнем душаў, дэманстраваў бескарыслівую любоў Хрыста, якой усе мы былі збаўленыя”.

Вывучэннем праблематыкі і падрыхтоўкай рэформы займалася спецыяльная камісія, створаная Пантыфікам 27 жніўня 2014 г. Гаворка не ідзе пра так званыя “ануляванні” сужэнства.

Касцёл не можа адмяніць сапраўднага сужэнства, але выключна сцвердзіць, што яно з’яўляецца несапраўдным або ніколі не было заключана, калі для гэтага не хапала ўмоў. Новаўвядзенні пакліканы “спрыяць не прызнанню несапраўднасці сужэнстваў, але паскарэнню працэсаў”.

Зменены Папам нормы Кананічнага права ў гэтым пытанні існавалі з XVIII ст. Пра неабходнасць гэтага гаварылася падчас Сінода Біскупаў у 2005 г. і ў часе пазачарговай сесіі Сінода Біскупаў у кастрычніку 2014 г.

Але, як паясняе старшыня Папскай рады па інтэрпрэтацыі заканадаўчых тэкстаў кардынал Франчэска Кокапальмеры, Апостальскім лістом “Mitis Iudex Dominus Iesus” аб паскарэнні працэсу прызнання несапраўднасці сужэнства Папа Францішак не змяняе навучанне Касцёла і не ўводзіць “касцельных разводаў”, але спрашчае некаторыя працэдуры для душпастырскіх мэтаў.

> “для прызнання несапраўднасці сужэнства будзе дастаткова рашэння суда першай інстанцыі”

“Мы размаўляем аб працэсе, які вядзе да прызнання несапраўднасці заключэння сужэнскага саюзу. Гаворка ідзе пра тое, каб у першую чаргу ўбачыць, ці сужэнства было заключана, і калі не было, прызнаць яго несапраўднасць. Тут не маецца на ўвазе працэс, які вядзе да “анулявання” сужэнскага саюзу”, – сказаў іерарх.

Ватыканскі іерарх падкрэсліў, што несапраўднасць сужэнства і яго “ануляванне” – гэта дзве розныя рэчы. Сапраўднага сужэнства Касцёл “ануляваць” не можа.

Змены, прынятыя Пантыфікам, носяць душпастырскі характар і заключаюцца ў паскарэнні працэдур, каб хутчэй служыць вернікам. “Прынцыпы гэтага вельмі ясныя: працэс прызнання несапраўднасці сужэнства можа стаць хутчэйшым, аднак ён павінен здзяйсняцца з пашанай да яго прыроды, чым з’яўляецца пошук праўды”, – заўважыў кардынал Кокапальмеры падчас прэзентацыі папскага дакумента ў Ватыкане.

*Паводле матэрыялаў Ватыканскага Радыё*

# Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB запрасіў Папу ў Беларусь

**10 верасня ў папскай аўдыенцыі для біскупаў, якія атрымалі сакру на працягу апошняга году, прымаў удзел іерарх з Беларусі – дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB.**




Як і кожны ўдзельнік сустрэчы, ён меў магчымасць падысці да Святога Айца і абмяняцца з ім некалькімі словамі. Беларускі іерарх падзякаваў Пантыфіку за тое, што вылучыў яго і ва ўзросце 40 гадоў прызначыў біскупам, тым самым адарыўшы сваім вялікім даверам і надзеяй. Ён падзякаваў таксама за клопат пра беларускі народ і яго далейшы лёс, пры гэтым дадаўшы, што гэты клопат відавочны ў розных сітуацыях.

“Карыстаючыся нагодай, я ўзгадаў аб прагненні вернікаў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі і людзей добрай волі ўбачыць Папу на нашай зямлі”. У адказ на гэта Святы Айцец моцна паціснуў мне руку і сказаў: “Калі гэтага захоча Пан”, – распавёў біскуп Яшэўскі карэспандэнту сайта Каталіцкага Касцёла ў Беларусі Catholic.by. “Дзякуючы за клопат пра наш народ і Касцёл, я перадаў Папу вельмі сардэчнае прывітанне ад усіх і запэўніў, што мы молімся за Святога Айца”, – дадаў біскуп.

# Папа Францішак даў права кожнаму святару адпускаць грэх аборту і прыняў шэраг іншых важных рашэнняў

**“Хачу, каб юбілей быў жывым досведам блізкасці Айца, дотыкам да Яго пяшчоты, каб вера кожнага была ўзмоцнена і, такім чынам, яго сведчанне стала яшчэ больш плённым”, – такая думка гучыць у пачатку ліста Папы Францішка да арцыбіскупа Рына Фізікелы, старшыні Папскай рады па новай евангелізацыі.**

Галоўнай тэмай паслання, абнародаванага ў Ватыкане 1 верасня, сталі адпусты, звязаныя з надзвычайным юбілейным Годам міласэрнасці, які пачынаецца ў Касцёле 8 снежня 2015 г.

“Каб перажыць і атрымаць адпуст, вернікі павінны зрабіць кароткую пілігрымку да Святых дзвярэй, адчыненых у кожнай катэдры або касцёлах, вызначаных дыяцэзіяльным біскупам, а таксама ў чатырох папскіх базыліках у Рыме, у знак глыбокага імкнення да сапраўднага навяртання.

Акрамя таго, я распараджаюся, каб у санктуарыях, дзе былі адчынены дзверы міласэрнасці, і ў касцёлах, якія традыцыйна вызначаны ў якасці юбілейных, існавала магчымасць атрымання адпусту. Важна, каб гэты момант быў звязаны, у першую чаргу, з сакрамантам паяднання і ўдзелам у св. Імшы, а таксама з разважаннем пра міласэрнасць.

Неабходна будзе суправаджаць гэтыя цэлебрацыі вызнаннем веры і малітвай за мяне і ў маіх інтэнцыях, якія нашу ў маім сэрцы на карысць Касцёла і ўсяго свету”, – напісаў Пантыфік.

Святы Айцец падкрэсліў, што асаблівым чынам думае пра тых, хто па розных прычынах не будзе мець магчымасці прайсці праз Святыя дзверы: хворых і людзей пажылога ўзросту. Для іх спосабам атрымання адпусту будзе прыняцце св. Камуніі і ўдзел у св. Імшы або супольная малітва, нават з дапамогай сродкаў камунікацыі, напрыклад, радыё і тэлебачання.

Вялікай “амністыяй” назваў Папа Год міласэрнасці для зняволеных. “Яны могуць атрымаць адпуст у турэмных капліцах. А калі будуць праходзіць праз дзверы сваёй камеры, кіруючы думкі і малітвы да Айца, няхай кожны раз гэты жэст азначае для іх праходжанне праз Святыя дзверы, таму што Божая міласэрнасць, якая можа змяняць сэрцы, таксама ў станеператвараць краты ў досвед волі”, – сказаў Пантыфік.

Францішак звярнуў увагу на багацце, якое захоўваецца ва ўчынках міласэрнасці для душы і цела бліжняга. “Кожны раз, калі нехта з вернікаў асабіста выканае адзін або некалькі гэтых учынкаў, безумоўна, атрымае юбілейны адпуст. (...) Гэта будзе поўны юбілейны адпуст, плён самой падзеі, якая цэлебруецца і перажываецца з верай, надзеяй і любоўю”, – гаворыцца ў лісце Святога Айца. Ён нагадаў, што адпуст можа быць ахвяраваны не толькі за сябе, але і за памерлага.

Пантыфік прыняў яшчэ адно беспрэцэдэнтнае рашэнне: у Год міласэрнасці ён даў права кожнаму святару адпускаць грэх аборту асобам, якія ўчынілі яго, шкадуюць пра зробленае і просяць аб прабачэнні. “У Божым прабачэнні не можна адмовіць нікому, хто шкадуе, асабліва калі той са шчырым сэрцам прыступае да сакраманту споведзі, каб прымірыцца з Айцом”, – так аргументаваў сваё рашэнне, якое было прынята, “нягледзячы на ўсе супярэчныя правілы”, Францішак.

Яшчэ адно распараджэнне Пантыфіка датычыць вернікаў, што па розных прычынах выбіраюць касцёлы, дзе служаць святары з брацтва св. Пія X, якіх называюць лефэўрыстамі.

“Гэты юбілейны Год міласэрнасці нікога не выключае”, – напісаў ён і дадаў: “Распараджаюся і пастанаўляю, што асобы, якія ў Святы Год міласэрнасці прыступяць да сакраманту пакаяння ў святароў брацтва св. Пія X, атрымаюць сапраўднае і годнае адпушчэнне грахоў”.

Францішак даверыў юбілей заступніцтву Маці міласэрнасці і даручыў яе апецы падрыхтоўку да яго.

*Ватыканскае Радыё*

# Пад апекай святога Крыштафа: ксёндз-матацыкліст у Лепелі блаславіў байкераў

**Многія госці свята горада, прыйшоўшы ў парк, звярнулі ўвагу на кавалькаду матацыклаў самых розных вытворцаў і рознага дызайну. Двухколавыя жалезныя коні пашыхтаваліся перад касцёлам у дзве шарэнгі, а іх гаспадары... рушылі ў храм.**

■ **Васіль Матырка**, *тэкст;* **Аляксандр Астроўскі**, *фота*




Аказваецца, адным з арганізатараў гэтага мерапрыемства быў наш ксёндз з касцёла св. Казіміра Андрэй Аніскевіч.

– Ксёндз Андрэй, як прыйшла Вам такая ідэя?

– Я сам матацыкліст. Яшчэ калі служыў у Італіі, звярнуў увагу на тое, як папулярны двухколавы транспартны сродак сярод італьянцаў. А потым набыў і сабе матацыкл BMW. Гэта хуткасная, спартыўная мадэль. Служачы там у касцёле, прытрымліваўся традыцыі ўвесну бласлаўляць матацыклы і матацыклістаў перад адкрыццём мотасезону і ўвосень – па закрыцці. Збіралася да 700 – 800 матацыклаў. Вось і падумалася, чаму б гэтую ідэю не рэалізаваць у Лепелі? Паспрабаваў правесці бласлаўленне перад закрыццём сезону, прымеркаванае адначасова да свята горада. Першы блін, як бачыце, не зусім сабаку.

– Як вам удалося сабраць такую колькасць байкераў?

– Мне аднаму, відома, не ўдалося б справіцца. Ролю галоўнага арганізатара ўзяў на сябе Валерый Асоўскі, кіраўнік пейнтбольнага клуба "JokerPro". Ён іх сабраў, арганізаваў, яму і слова.

– Сабраць байкераў было самай лёгкай справай, бо мы па сваёй прыродзе вельмі хуткія на пад'ём, – уключыўся ў гутарку Валерый. – Я і сам езджу на "Suzuki" – спартыўным матацыкле. А сабраць усіх дапамаглі сучасныя тэхналогіі – сацыяльныя сеткі. Праз іх пусціў кліч па суполках, адгукнуліся ў асноўным байкеры з нашай вобласці, прыехалі падтрымаць лепельскіх калег.

– Ксёндз Андрэй, задам Вам асабістае пытанне. Які матацыкл прыцягнуў Вашую асаблівую ўвагу?

– Honda Gold Wing – перакладаецца як "залатое крыло". Гэта магутны, прыгожы матацыкл з V-падобным рухавіком, прыехаў на ім, дарэчы, лепяльчанін, я яго ведаю наглядна.

У касцёле перад гасцямі прагучалі арганная музыка і песні ў выкананні Тацццяны Івашкевіч. Ксёндз Андрэй з кафедры прамовіў:

– Няважна, якая вопратка на чалавеку: ці сутана, ці дзелавы гарнітур, ці скураныя куртка і штаны ў заклёпках. Важна тое, якая душа ў чалавека, якія яго думкі, памкненні і, як вынік – учынкі. Усе мы, незалежна ад роду заняткаў, аб'яднаныя любоўю да нашай Айчыны, молімся за яе, пажадаем нашых братоў, сяброў, усіх людзей. Гэтая любоў і павага павінна праяўляцца і ў час, калі едзеш па дарозе. Важна, каб і на асфальце кіроўцы і пешаходы паважалі адно аднаго. Няхай з вамі будзе Божае бласлаўленне і апека святога Крыштафа, памочніка тых, хто ў дарозе.

Пасля гэтага адбылося асвячэнне і бласлаўленне матацыклаў.

Увесь гэты час госці свята, асабліва дзеці і падлеткі, выкарыстаалі для таго, каб бліжэй разгледзець байкі, многія з якіх яны да гэтага бачылі хіба што ў кіно ці ў інтэрнэце, фатаграфаваліся. Спытаў у прысутнага на свяце старшага інспектара па адміністрацыйнай практыцы АДАІ РАУС Мікалая Куранога: "Наколькі карэктна, на Ваш погляд, паводзяць сябе на дарогах сучасныя байкеры?"

– З пачатку года ў раёне зарэгістравана 13 дарожна-транспартных здарэнняў. З іх толькі адно адбылося з удзелам матацыкліста, у выніку яго адзін чалавек атрымаў траўмы. А на дарогах вобласці за гэты ж час адбылося 14 ДТЗ з удзелам матацыклістаў. У іх загінулі восем чалавек, дзевяць атрымалі раненні. У асноўным нашы матацыклісты – дысцыплінаваны народ. Хаця, відома, здараецца ўсялякае. Бывае, што спыняем за перавышэнне хуткасці, няпройдзены тэхагляд. Але гэта, хутчэй, выключэнне.

– Ці не плануеце падобныя мерапрыемствы праводзіць рэгулярна, – пытаюся ў Валерыя Асоўскага.

– Скажу нават больш. У планах арганізаваць у Лепелі байкерскі клуб. Гутарыў са многімі матацыклістамі, амаль усе падтрымліваюць гэтую ідэю. Параюся з байкерамі з іншых гарадоў. Думаю, што ў бліжэйшы час нешта такое створым. А тады ўжо лягчэй і працай будзе арганізоўваць іншыя мерапрыемствы. Але пра гэта якнебудзь пазней.

Зроблены апошнія фотаздымкі, хлопцы і дзяўчаты абмяняліся тэлефонамі і адрасамі ў інтэрнэце – можна і збірацца ў дарогу. Пляцоўка зноў запоўнілася гулам рухавікоў. Бліскучая, храмаваная кавалькада плаўна выязджала на вуліцы.

## Пра жыццё і веру

Пішу аповесць.
Назва ёй – ЖЫЦЦЁ.
Пішу слязьмі, салёным потам.
Пражыты дзень – напісаны лісток,
А колькі тых лісткоў запоўню потым?

***



Маё жыццё – мая малітва.
Малітва слоў,
Малітва дум,
Малітва рук.
Кіпіць ува мне
Жарсцей з пакорай бітва.
Не прыпыняю
Свой наперад рух.

***

Укрыўся Хрыстус між старых, малых, нямоглых.
Павінны мы прыйсці Яму на дапамогу.
Адкрыйся сэрцам, чалавек,
Душой адкрыйся,
Ад тых, хто ў смутку і жальбе, не адвярніся.
Калі ж шчаслівы па жыцці, то не скупіся,
Цяплом душы, святлом вачэй
Ты падзяліся.

*Алена Пажога*

# Папа Францішак наведаў краму оптыкі ў Рыме

**Турысты і жыхары Рыма нечакана атрымалі магчымасць зблізку паглядзець на Папу, калі кіраўнік Рыма-Каталіцкай царквы пакінуў Ватыкан дзеля візіту ў оптыку.**




Францішак прыехаў у краму акуляраў на звычайнай машыне і правёў каля 40 хвілін, прымяраючы новыя аправы.

У выніку ён папрасіў, каб яму проста ўставілі новыя шкельцы, і настаяў, што сам аплаціць пакупку.

"Мне не патрэбная новая аправа, мне проста трэба замяніць шкло, я не хачу траціць шмат", – прыводзяць СМІ словы Папы.

Уладальнік крамы Алесандра Спіца і раней рабіў акуляры для Папы, аднак звычайна сам дастаўляў іх у Ватыкан. Паводле яго слоў, ён паняцця не меў, што да яго можа зайсці Пантыфік.

*nn.by*

# Упершыню беларусы маліліся на роднай мове ў капліцы на месцы аб'яўлення Маці Божай у Фаціме

**Фаціма – марыйны санктуарый у Партугаліі, дзе ў 1917 годзе тром пастушкам аб'явілася Маці Божая.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Шлях сюды з Беларусі пралягае амаль праз усю Еўропу. Людзі імкнуцца ў партугальскую Фаціму, каб атрымаць духоўнае аздараўленне. Просяць яго і для сваіх блізкіх. Шматлікія калекі моляцца тут аб суцяшэнні ў сваім цярпенні. Штовечар пілігрымы запальваюць знічы і з імі ў руках запаўняюць вялікую плошчу перад базілікай.

І вось вечарам 18 жніўня 2015 года беларускія пілігрымы дасягнулі сваёй мэты. Фаціма... Цудоўнае і незвычайнае месца для кожнага верніка. Перад намі – два поўныя дні малітвы і адпачынку. Вечарамі, а 21.30 кожнага дня, мы сустракаемся на малітве ружанцовай з запаленымі свечкамі ў руках, пасля чаго адбываюцца працэсіі. Упершыню беларуская група мела магчымасць маліцца на св. Імшы на роднай мове ў капліцы на месцы аб'яўлення Маці Божай. Дзве Эўхарыстыі – увечары а 17-й гадзіне 19 жніўня з мноствам людзей і раніцай наступнага дня а 5-й.

Падчас гаміліі кс. Вячаслаў Пялінак заклікаў углядацца ў Божую Маці. "Кожны з нас прыязджае сюды як грэшнік, а калі хто лічыць інакш, то дарма страціў грошы і 15 дзён. Марыя, наша Маці, не дазваляе нам тут быць вялікімі хрысціянамі. Яна кажа, каб мы знялі маскі святасці, якія апранаем адно перад адным, каб здавацца правільнымі і святымі. Гэтага тут ад нас Бог не патрабуе. І калі па-сапраўднаму чуем Яе слова і наследуем нашу Маці, то не будзем тут стаяць вялікімі волатамі веры, не будзем пералічваць сваіх заслуг, а як Марыя скажам: "Божа, які я малы і які Ты вялікі. Якую ж вялікую літасць, ласку, дабрыню і прабачэнне Ты распасцёр над сваім слугой, сваёй служанкай, над маёй сям'ёй і над маімі блізкімі", – прамовіў святар.

Сям'я Ірыны і Уладзіміра з Мінску пілігрымуюць у трэці раз разам з piligrymka.by. "Папа Бэнэдыкт XVI калісьці сказаў, што кожны католік павінен пілігрымаваць. Упершыню мы паехалі ў Ватыкан, а на наступны год разам з дваімі дзеткамі выправіліся ў Святую Зямлю. А сёлета разам з мужам атрымалася паехаць у Фаціму, бо гэта было нашай даўняй марай. Усе нашыя пілігрымкі вельмі розныя. У Люрдзе я вельмі ясна адчула прысутнасць Маці Божай, а ў Фаціме падчас пакутнага шляху на каленях я ўбачыла на небе драўляны крыж карычневага колеру менавіта ў той момант, калі сіл не было ўжо крочыць далей. А ўбачыўшы крыж, зразумела: Хрыстос са мной і я дасягну канца гэтай дарогі", – расказвае Ірына і дадае: "Божай ласкай для нашай сям'і стала магчымасць прачытаць пяць разоў малітву "Вітай, Марыя" на нашай роднай беларускай мове падчас вечаровага Ружанца на пляцы".







# Святар ад Бога

Удзевяностыя гады мінулага стагоддзя распачалося рэлігійнае адраджэнне. У нашу парафію святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах Браслаўскага раёна прыехалі з Польшчы два місіянеры-салетыны – кс. Зянон Шчонхар і кс. Альфрэд Пяхота. У той час ім жылося вельмі цяжка, у плябаніі не было нават ложка, святарам даводзілася спаць на падлозе.

Першую святую Імшу адпраўлялі на вуліцы каля плябаніі. Дзякуючы добрасумленнай працы місіянераў з дапамогай парафіян хутка адбудавалі часткова разбураны будынак касцёла, з Польшчы прывезлі званы. Іх мілагучны звон і цяпер разносіцца ў нашай парафіі. Зараз гэтых святароў у нашай парафіі няма, але мы часта сустракаемся на фэстах, рэкалекцыях, на св. Імшы ў відзаўскім касцёле. Мы памятаем і вельмі любім нашых першых святароў.

21 верасня ў дэкана Відзаўскай парафіі кс. Альфрэда Дзень нараджэння. Мы, вернікі з Дрысвят, хочам выказаць яму самыя светлыя і сардэчныя віншаванні. Мы дзякуем Пану Богу за дар жыцця нашага святара і за ласку сустрэчы з ім. Дзякуем кс. Альфрэду за цеплыню і любоў да нас, за творчую і адданую працу.

Нам часта даводзіцца наведваць відзаўскі касцёл і бачыць усё, што зроблена і робіцца ў духоўнай і матэрыяльнай сферы касцельнага жыцця. За гады працы кс. Альфрэда ў Відзах непазнавальна змяніўся выгляд касцёла і прылеглай да яго тэрыторыі. Тут можна ўбачыць батлейку, вадаём, дзе плаваюць качкі і квітнеюць лілеі, гару Галгофу і шмат іншага. Аднаўляецца ўнутранае ўбранства святыні, наведзены парадак на парафіяльных могілках. Гэта заслуга кс. Альфрэда. Сюды прыязджаюць турысты і госці з розных куткоў Беларусі. Відзаўскі касцёл можна назваць другім Мосарам.

Ксёндз Альфрэд – знакавая фігура ў рэлігійным жыцці Браслаўшчыны. Хай добры Бог і далей дапамагае святару ва ўсіх справах, хай Дух Святы натхняе на іх, а Маці Божая і ўсе святыя апякуюцца ім!

А нашу парафію Бог надзяліў добрым пастырам Генадзем Ляўковым – вучнем кс. Альфрэда. Ён вельмі падобны да свайго настаўніка: адкрыты, добразычлівы, мудры, святы чалавек. Кс. Генадзь вельмі цікава і даступна даносіць духоўную інфармацыю, дапамагае нам стаць лепшымі і міласэрнымі. За яго мы ўдзячны Пану Богу і кс. Альфрэду.

*З павагай, удзячныя вернікі з Дрысвят (Браслаўскі р-н)*

# Ліст падзякі з Варапаева



**Жнівень... Так прыгожа гучыць назва месяца, напамінаючы пра самую гарачую і адказную пару года – жніво. Крыху сумна глядзець, як камбайны выходзяць на нівы, бо адчуваецца канец лета, адпачынку... Але якая дзіўная ўрачыстасць у гэтым гуле малацьбы, якое хвалюючае пачуццё – бачыць багаты ўмалот, збіраць плён сваёй працы!**

Менавіта ў такую пару 25 гадоў таму, у жніўні 1990 года, прыехаў з Польшчы ў Беларусь ксёндз Чэслаў Куцмеж. Маладому святару давялося нялёгка, гэта быў сапраўдны іспыт на цярпенне. Толькі цяпер, праз 25 гадоў, пачынаеш разумець, як гэта было цяжка – падняць духоўную цаліну, распачаць адраджэнне веры. На здзіўленне, ксёндз Чэслаў ніколі не скардзіўся. Па яго словах, яму ніколі не было цяжка, заўсёды было добра. Захапляў яго энтузіязм, жаданне як мага больш людзей "запаліць" Божым агнём, прывесці ў касцёл. У той складаны час у святыню прыходзілі пераважна старыя людзі, маліліся на польскай мове. Колькі спатрэбілася намаганняў, каб у касцёле зазвінелі дзіцячыя галасы, прыйшлі маладыя сем'і, загучала беларуская мова!

Ксёндз Чэслаў заснаваў "Хатні касцёл", чальцы якога сталі актыўнымі ўдзельнікамі касцельнага жыцця. Хочацца нагадаць заклік Яна Паўла ІІ да святароў: "Бог даручыў вам асаблівае заданне – накіроўваць маладых на шляхах святасці... Дадайце ім адвагі, каб яны не баяліся выплыць на глыбіню". І ксёндз Чэслаў дадаваў гэтую адвагу, таму людзі выплывалі на глыбіню, не ўмеючы плаваць, не арыентуючыся ў духоўнай прасторы. Побач быў Настаўнік, лагодны і зычлівы Пастыр, які заўсёды ішоў наперадзе, вёў свой статак, і кожны адчуваў бяспеку, абароненасць.

Асаблівыя словы падзякі хочацца сказаць ксяндзу Чэславу за вялікі давер да сваіх вернікаў, за павагу да нашай Радзімы, Бацькаўшчыны, за дасканалае валоданне беларускай мовай. Перад такой шчырай беларускасцю святара міжволі ўзнікае жаданне размаўляць на роднай мове, паглыбляцца ў сваю нацыянальную культуру. Заслугоўваюць вялікай павагі казанні ксяндза Чэслава. Яго святарскае слова захапляе мудрасцю, велічнасцю і адначасова прастасцю. Як чыстая вада, гэтае слова абмывае нашы душы, ацаляе сэрцы, мацуе сілы! А гэта найпершае прызначэнне, галоўная місія святара – лекаваць чалавечыя душы.

У нашым паспешліва-мітуслівым жыцці ксёндз Чэслаў здольны захаваць супакой, перадаць яго іншым. За 25 гадоў служэння ў Беларусі святар працаваў у розных парафіях: Лынтупах, Камаях, Шаркаўшчыне, Ляхавічах, Сваятычах. Апошнія тры гады ксёндз Чэслаў служыць у Варапаеве. Вялікую ўвагу святар надае працы з моладдзю. Бацькі не могуць нарадавацца, што іх дзеці вольны час праводзяць не за камп'ютарам, не ў сумнеўных вулічных кампаніях, а з радасцю бягуць да ксяндза Чэслава, які для іх з'яўляецца не толькі духоўным дарадцам, але і спартыўным трэнерам, і арганізатарам паходаў, пілігрымак, а галоўнае – сябрам.

Якім можа быць яшчэ большы плён працы на Божай Ніве?!

У кнізе Ніла Гілевіча "Пацеркі Маці Божай" ёсць такія радкі:

*"А на шыі Маці Божай*
*Пацеркі з самацветаў мовы*
*беларускай..."*

Услед за паэтам з самацветаў мовы беларускай хочацца прынесці Вам, шаноўны ксёндз Чэслаў, вялізны букет, падзякаваць Пану Богу, што 25 гадоў таму Ён "паслаў на жніво" такога адданага беларускай зямлі святара! Радуюцца людзі!

***Удзячныя вернікі***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адпраўляць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Беларусы ў Іспаніі:




**Санцьяга-дэ-Кампастэла – горад, які налічвае каля 100 тысяч чалавек і знаходзіцца на самай поўначы Іспаніі, але з'яўляецца адным з самых буйных цэнтраў паломніцтваў у хрысціянскім свеце. Дамінантным будынкам старажытнай часткі горада выступае базіліка св. Якуба. Паводле традыцыі, у гэтай святыні спачываюць парэшткі апостала Якуба. Дзясяткі тысяч пілігрымаў з усяго свету ідуць дарогамі святога. Беларускія дзяўчаты Кацярына Кузняцова і Ганна Ляшчова таксама прайшлі шляхам апостала Якуба. Адна з паломніц, Кацярына, падзялілася сваімі ўражаннямі з “Каталіцкім Веснікам”.**

**– З якой мэтай Вы пайшлі ў паломніцтва?**

– Для мяне было цікава прайсці гэты шлях святога апостала Якуба, які завецца Каміна (ад ісп. Camino – шлях). Гэта магчымасць пабачыць новыя мясціны, пазнаёміцца з новымі людзьмі, трохі пабыць у нейкім своеасаблівым адасабленні. Маёй мэтай быў актыўны і спакойны адпачынак адначасова. Не было ніякіх звышнатуральных чаканняў. Проста час пілігрымкі са сваёй інтэнцыяй, час крочання, час у прысутнасці Бога, як і кожны дзень мае быць.

**– Кацярына, колькі кіламетраў і за які час Вы прайшлі?**

– Мая вандроўка расцягнулася на месяц, а сама пілігрымка па шляху св. Якуба займала 240 кіламетраў і 10 дзён.

**– Ёсць шмат маршрутаў да Санцьяга. Па якой прычыне Вы выбралі менавіта гэты?**

– Так, шмат дарог ёсць да Санцьяга, але мы абралі партугальскі шлях з-за цікавасці да гэтай краіны. Ішлі з Порту да Санцьяга. Перад Каміна мы павандравалі па Партугаліі, наведаўшы Лісабон, Сінтру, Порту, Фаціму, а потым выйшлі на шлях. Частка яго праходзіла праз Партугалію, частка, адпаведна, праз Іспанію. Ну і пасля яшчэ па Іспаніі павандравалі.

**– Як выглядаў Ваш дзень?**

– Кожны дзень пачынаўся з упакоўвання рэчаў. Нават самыя неабходныя займаюць шмат месца, і іх ўкладванне ў заплечнік патрабуе кемлівасці і спрыту ☺. Выход з узыходам сонца а шостай раніцы па партугальскім і а сёмай па іспанскім часе. Тут шмат плюсаў: па-першае, пачынаеш дзень з узыходу сонца, а гэта нават лепш за кубак кавы раніцай. Па-другое, ідзеш, пакуль яшчэ нягорача. Самы мілы час для шпацыру, для малітвы. Ну а потым крочанне, размовы, цішыня, любаванне прыродай, людзьмі, гарадамі і вёскамі. Гэта таксама час цярплівасці і цярпення, бо дарога патрабуе і гэтага... Падчас дарогі можна сустрэць пілігрымаў і пачуць ад іх “buen camino!” Гэта значыць, добрай дарогі, добрага шляху. Таксама можна трохі адпачыць, прысеўшы пад куст ажыны, і паласавацца ягадамі, завітаць у кавярню, дзе ёсць адмысловае меню пілігрымаў. Збіцца з дарогі амаль немагчыма, увесь шлях суправаджаюць намаляваныя стрэлкі жоўтага колеру, яны і пакажуць, дзе напрыканцы дня альберг (спецыяльны хостэл для пілігрымаў). Прыйшоўшы ў альберг, маеш дзве задачы: памыць сябе і памыць сваё адзенне, ну а потым – паклапаціцца пра вячэру. Альбергі бываюць муніцыпальныя і прыватныя, але ўсе яны прымаюць толькі пілігрымаў. Муніцыпальныя таннейшыя і больш простыя. Заплаціўшы за альберг, атрымліваеш ложак у агульным пакоі, можаш гатаваць у кухні, карыстацца посудам, звычайна ёсць бясплатны wi-fi. На агульнай кухні і ў гасціннай размаўляеш пра Каміна і жыццё, заводзячы сяброўства, якое становіцца адным з самых важных складнікаў шляху ў Санцьяга. А агульныя беларуска-італьянска-польска-іспанска-амерыканскія вячэры робяць кожны вечар чаканым і смачным. І а дзясятай гадзіне – спаць, бо заўтра новы адрэзак дарогі, новы дзень, як быццам падобны, але зусім іншы.

**– Чым адрозніваецца гэтая пілігрымка ад беларускай?**

– Адрозніваецца самой формай пілігрымавання: ты ідзеш адзін (нават калі ўдваіх), клапоцішся пра сябе сам, сам сябе арганізуеш, сам ідзеш, сам молішся. Кожны дзень – нечаканасць. Потым прыходзіш у альберг, дзе можаш сустрэць знаёмых, а можаш і не сустрэць, бо яны пайшлі далей ці ты сёння прайшоў болей. Гэта цудоўная школа самастойнасці. Калі ў мяне спытаюць, як чалавека навучыць жыццю, я скажу: адпраўляй яго на Каміна, а не ў войска ☺. Што датычыцца людзей, то напачатку можна было ісці так, што ні за табой, ні перад табой нікога не было, толькі дарога. У апошнія дні перад Санцьяга заўсёды можна было бачыць пілігрыма з заплечнікам і прычэпленай на ім ракавінай.

**– Ракавіна, чырвоны крыж... Што гэта за сімвалы?**

– Ракавіна – сімвал шляху ў Санцьяга, шляху да святога Якуба. Даўней жыхары тых месцаў, праз якія ішлі пілігрымы, частавалі іх вадой, наліваючы яе ў такія ракавіны, бо іх вельмі шмат у той мясцовасці. Каля акіяна, дзе мы былі пазней, такіх “марскіх скарбаў” про-



# дарогамі святога Якуба

ста безліч. Ну а цяпер такую ракавіну пілігрым набывае ці знаходзіць на пачатку свайго паломніцтва, нясе яе ўвесь шлях, а ў канцы яна становіцца каштоўным падарункам для каго-небудзь вельмі важнага. Ракушка і жоўтая стрэлка – тыя сімвалы, што шукаеш вачамі на скрыжаванні, каб не заблытацца і дайсці да Санцьяга. Чырвоны крыж з'яўляецца сімвалам ордэна Санцьяга. Гэты рыцарскі ордэн быў заснаваны ў XII ст. на тэрыторыі Галісіі. Галоўнай задачай рыцараў была абарона пілігрымаў на шляху. Крыж шмат дзе сустракаецца ў касцёлах той мясцовасці.

**– А ці мелі Вы пашпарт пілігрыма? І для чаго ён увогуле патрэбны?**

– Так, пашпарт пілігрыма – абсалютна неабходная рэч. Ён набываецца ў месцы твайго выхаду на Каміна. Мы набылі яго ў Порту і там жа атрымалі першую пячатку. Пілігрым на працягу свайго шляху мусіць ставіць пячаткі з праставаўленай датай у месцы начлегу і падчас дарогі. Гэта як доказ таго, што ты ідзеш ці, напрыклад, едзеш на ровары. Толькі з пашпартам цябе возьмуць у альберг, а паказаўшы яго ў Санцьяга, атрымаеш пасведчанне, што прайшоў Каміна. Усе пячаткі адрозніваюцца паміж сабой. І сваёй формай, зместам, адлюстроўваюць тую мясціну, дзе яны зробленыя. Яны цікавыя. Ты кожнай па-дзіцячы радуешся, папоўніўшы сваю калекцыю.

**– Якімі мовамі трэба валодаць, пайшоўшы ў Санцьяга?**

– Мы ведаем англійскую, трохі разумеем іспанскую. Канешне, лепей ведаць англійскую, каб, напрыклад, дабрацца да той жа Партугаліі, Іспаніі, купіць квіткі, нейкія пытанні вырашыць у аэрапорце або наведаць музей. Каб купіць нешта ў іспанскай ці партугальскай краме, дастаткова ўмець карыстацца ўказальным пальцам, каб паказаць што і ў якіх колькасцях табе патрэбна. А каб падзякаваць каму за добразычлівасць, досыць усмешкі і беларускага "дзякуй". Я ўпэўнена, што цябе зразумеюць. Веданне любой замежнай мовы – гэта магчымасць паразмаўляць з кімсьці. Шмат сустракалі італьянцаў, іспанцаў, палякаў таксама. А можна сустрэць і француза, які размаўляе на рускай мове, так з намі было. Так што мову можна ведаць, а можна і не ведаць.

**– Якая звычайна бывае прагрма пасля прыбыцця?**

– Звычайна людзі праводзяць нейкі час у Санцьяга і вяртаюцца дадому. Шмат хто ідзе пехатой ці едзе на Фістэру (так званы "канец зямлі"), які знаходзіцца каля Атлантычнага акіяна. Напачатку і мы планавалі ісці туды, а потым вырашылі, што наша мэта пілігрымавання – Санцьяга. Пілігрымка на Фістэру падалася бессэнсоўнай. І мы паехалі туды на аўтобусе, пахадзілі пад дробным дажджом уздоўж акіяна, тры дні елі і спалі пасля гэтых 240 кіламетраў з заплечнікамі ў спёку і па гарах.

**– Назавіце, калі ласка, галоўныя атрыбуты паломніка, які ідзе шляхам святога Якуба?**

– Напачатку трэба сябе правільна абуць. Мы набывалі трэкінгавыя боты, найлепшы варыянт і ў спёку, і ў дождж, і па гарах, і па пяску, і па брукаванцы ў горадзе. Не параўнаць ні з красоўкамі, ні з сандалямі. Дзве пары шкарпэтак, больш не трэба. Тры цішоткі, кашуля, каб рукі прыкрыць. Шорты, дзве пары легінсаў, бо сонца ногі не шкадуе. Сукенка на выхад. І, канечне, байка і вятроўка-дажджавік, кепка. Рэчы асабістай гігіены. Важна, каб гэтыя рэчы займалі мінімум месца. Таму зубная шчотка – дзіцячая. Гаспадарчае мыла – яно і мыла для цела. Ручнік – спецыяльны, куплены ў спартовай краме, які мае вялікі памер, але малы аб'ём. Спальнік, пасцілка, каб прысесці. Крэм для загару не забыцца. І кубак з лыжкай спатрэбяцца. Фотаапарат і нататнік з асадкай, каб запісаць свае ўражанні і e-mail новага сябра. Усе мапы, буклеты на разок. Прачытаў, скарыстаў, пераступіў мяжу горада – і выкінуў, бо месца ў заплечніку на іх няма. Ну і спампаваныя мапы на смартфон – рэч карысная. Maps.me – добрая праграма для смартфона.

**– А як наконт фінансавага боку?**

– Квіткі на самалёты трэба набываць загадзя, за 4-5 месяцаў. Варыянты з перасадкамі найтаннейшыя. Туды мы ляцелі праз Вільнюс – Мілан – Мадрыд – Лісабон (100 еўра), назад па маршруце Санцьяга – Мадрыд – Вільнюс (100 еўра), ляцелі ў асноўным авіякампаніяй Ryanair. Начлег у альбергах (муніцыпальных) 5-6 еўра за ноч, у Санцьяга – за 12 еўра. Калі купляць ежу ў супермаркетах, выходзіць нядорага. Дадатковае вандраванне, канешне, патрабуе дадатковых грошай – на транспарт, жыллё, кавярні, музеі. Жыллё ў цэнтры Лісабона, Порту, Леона, Таледа, Мадрыда можна зняць і за 8-16 еўра з чалавека. Мы карысталіся такімі сайтамі па пошуку жылля: airbnb.com, booking.com. Усё залежыць ад звычак і жаданняў. На мой погляд, грошы пад'ёмныя.

**– Што Вы параіце тым, хто збіраецца пілігрымаваць дарогамі святога Якуба?**

– BUEN CAMINO! Гэтыя словы для мяне цяпер значаць сапраўды шмат.

***Размаўляла***
***Ірына Грэйць***



Кацярына Кузняцова *(справа)* і Ганна Ляшчова



# У Мядзеле адзначылі







**Гэта адзіная Кальварыя, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Два разы яна была разбураная: першы раз яшчэ ў царскія часы, другі – бальшавікамі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

## Гісторыя Кальварыі

Гісторыя мядзельскай Кальварыі цесна пераплятаецца з гісторыяй парафіі. У сярэдзіне XVIII стагоддзя фундатар касцёла Маці Божай Шкаплернай Антоній Кошчыц запрасіў у Мядзел кармелітаў босых. Ён таксама фундаваў будаўніцтва для іх кляштара.

Кармеліты вырашылі пабудаваць Кальварыю, падобную да Крыжовай дарогі ў Ерусаліме. Годам заснавання Кальварыі лічыцца 1765-ы. У 1772 годзе яна ўжо налічвала 21 капліцу і 8 брамаў, якія пачыналіся паблізу касцёла і выходзілі за мястэчка. Капліцы былі самага рознага кшталту, збудаваныя з дрэва, стаялі на каменных падмурках і змяшчалі ў сабе маляваныя абразы і драўляныя скульптуры.

У другой палове XIX стагоддзя будынак касцёла разам з Кальварыяй перадалі праваслаўнай царкве, а кармеліты вымушаныя былі пакінуць Мядзел. Кальварыя аказалася непатрэбнай новым гаспадарам і стала занепадаць і разбурацца. Найбольш жа яна пацярпела падчас Першай сусветнай вайны, калі непадалёк ад яе праходзіла лінія фронту.

У 1920 годзе, калі Мядзел трапіў у склад адроджанай польскай дзяржавы, храм і Кальварыя былі перададзеныя католікам. Зноў у Мядзел вярнуліся айцы-кармеліты, і пачалося другое адраджэнне Кальварыі. Яго ініцыятарам быў айцец Браніслаў Ярасінскі, які працаваў у Мядзеле напрыканцы дваццатых гадоў мінулага стагоддзя. Пасля смерці жыхара Мядзела Генрыха Козел-Паклеўскага, якому на той час належала ўся тэрыторыя першапачатковай Кальварыі, айцы-кармеліты адкупілі ў нашчадкаў 50 га зямлі пад адраджэнне новай Кальварыі. У 1933 – 1938 гадах былі пабудаваныя 15 капліц з цэглы, каменя і блокаў, пакрытых бляхай.

Але другому адраджэнню Кальварыі перашкодзіла Другая сусветная вайна, якая пачалася ў 1939 годзе. Спачатку Мядзельшчына патрапіла ў склад Савецкага Саюза, потым тут тры гады гаспадарылі немцы, пасля сюды зноў прыйшлі камуністы з іх ваяўнічым атэізмам. Замест другога адраджэння наступіў перыяд другога разбурэння Кальварыі. Гэтае разбурэнне было куды больш жорсткім, чым першае, бо цалкам знішчыла Кальварыю. Пацярпеў і сам будынак святыні. Спачатку тут зрабілі зернясховішча, а потым – склад мінеральных угнаенняў. Парэшткі фундатара касцёла, якія спачывалі ў скляпеннях храма, былі выкінутыя…

Касцёл перадалі вернікам толькі ў 1989 годзе. Адразу ж пачаліся працы па аднаўленні будынка. Пасля гэтага ўзнікла ініцыятыва і па аднаўленні мядзельскай Кальварыі. Як заўсёды ў такіх справах, не хапала сродкаў, таму фундатараў шукалі нават у суседняй Польшчы. Адтуль жа прывозілі і большасць матэрыялаў, бо беларуская цэгла аказалася не самай лепшай і хутка разбуралася.

Сучасная Кальварыя ў Мядзеле складаецца з чатырнаццаці капліц памерам тры на два з паловаю метры, якія сімвалізуюць 14 стацый Крыжовага шляху Хрыста. Працягласць мядзельскай Крыжовай дарогі складае каля двух з паловай кіламетраў. Адроджаная Кальварыя праектавалася на ўзор Кальварыі Зэбжыдоўскай у Польшчы. Праект зрабіў інжынер-архітэктар Якуб Вэстрых з Варшавы.

Адноўленую Кальварыю ў 2014 годзе асвяціў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

## Крыжовы шлях

Урачыстасць распачалася ў нядзелю, 13 верасня, аб 11-й гадзіне, калі вернікі сабраліся каля касцёла, каб сустрэць Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці.

> **„Апостальскі Нунцый адзначыў, што ў пілігрымцы павінны ўдзельнічаць не толькі нашы ногі, але і сэрцы"**

Пасля прывітальных словаў арцыбіскуп акрапіў вернікаў святой вадой і зайшоў у храм. У сваім кароткім звароце да парафіян і гасцей свята ён адзначыў, што хоча хутчэй пабачыць на свае вочы Кальварыю, пра якую яму шмат разоў даводзілася чуць. Ён таксама адзначыў, што ў пілігрымцы павінны ўдзельнічаць не толькі нашы ногі, але і сэрцы. “Калі мы ідзём, а ў гэты час нашы думкі далёка, то моляцца толькі нашы ногі,” – адзначыў іерарх.

Пасля кароткай малітвы ў касцёле вернікі разам са святарамі выправіліся да Кальварыі. А шлях не такі ўжо і блізкі – недзе каля трох

# 250-годдзе Кальварыі





кіламетраў. Гэты шлях разам з вернікамі прайшоў і прадстаўнік Папы ў Беларусі.

На ўрачыстасць прыехалі таксама айцы-кармеліты з розных куткоў Беларусі, а таксама айцец-правінцыял з Польшчы Ян Пётр Маліцкі OCD. Ён прыехаў з кармеліцкіх дыяканскіх пасвячэнняў, якія адбываліся ў суботу, і цэлую ноч правёў за рулём аўтамабіля, каб паспець прыехаць да пачатку святкавання. Святар распавёў, што апошні раз быў у Мядзеле 25 гадоў таму. Тады стан касцёла, што ляжаў у руінах, і Кальварыі, якая амаль цалкам была знішчаная, выклікалі сумнае ўражанне. Зараз жа тое, што ён пабачыў, прывяло яго ў захапленне. Захапленне не толькі ад адноўленых святынь, але і ад шчырай веры людзей, якія прыйшлі на Крыжовы шлях.

Каля аднаўленай брамы мядзельскай Кальварыі працэсію ўжо чакала шмат людзей, якія далучыліся да Крыжовага шляху. Пасля прывітальных слоў і ўручэння папскаму пасланніку хлеба распачалася ўласна Крыжовая дарога. Трэба адзначыць, што яна праходзіць па вельмі маляўнічых мясцінах: дарога то падымаецца на пагорак, то спускаецца ўніз. І ўсё гэта ў лесе або на ўзлеску. Гэту прыгажосць нельга перадаць словамі, яе трэба бачыць!

Месцамі можна пабачыць падмуркі і рэшткі сцен старых каплічак. Па іх памерах відаць, што яны былі значна большымі за сённяшнія. Бурыць іх ужо ніхто не будзе, яны будуць стаяць столькі, колькі адвядзе ім час. Яны павінны напамінаць нам пра людзей, нашых продкаў, якія тут жылі, верылі ў Бога, таксама хадзілі па гэтым Крыжовым шляху. Яшчэ яны нагадваюць нам пра варвараў XX стагоддзя і заклікаюць, каб больш падобныя з'явы не мелі месца ў нашым жыцці.

У наш час каплічкі размешчаныя на абодвух баках шашы, што вядзе з Паставаў у Мядзел. Таму, каб патрапіць у канцавы пункт Крыжовага шляху, трэба перасячы шашу. Тут краявіды ўжо мяняюцца: калі раней каплічкі размяшчаліся ў лесе, то цяпер яны знаходзяцца на ўзлеску. Але гэта не змяншае прыгажосці наваколля! Ну а калі мы падняліся пасля апошняй стацыі на ўзгорак, дзе павінна была адбыцца святая Імша, то навакольная прыгажосць нас проста пакарыла: з пагорка відаць прыгожае возера Мястра, на беразе якога як на далоні – Мядзел!

> „Мядзельская Кальварыя з'яўляецца вобразам доўгага пакутлівага шляху беларускага народа"

Працягласць Крыжовай дарогі складае каля двух з паловай кіламетраў, таму людзі стаміліся, бо прайсці такі немалы шлях па лясных сцежках не такая ўжо і лёгкая справа. Але Крыжовая дарога таму так і называецца, што мы, разважаючы пра пакуты і ахвяры Езуса Хрыста, таксама павінны нечым ахвяраваць. І, нягледзячы на стомленасць, вернікі былі шчаслівыя. Шчаслівыя таму, што прайшлі гэты шлях, што з імі разам маліўся прадстаўнік Апостальскай сталіцы, што дачакаліся часу, калі можна не баяцца выказваць сваю веру.

Як сказаў для "Каталіцкага Весніка" Багдан Руткевіч, вернік Мядзельскай парафіі, "Кальварыя ўваскрэсла, аднавілася, гэта цуд, гэта наша радасць. Нягледзячы на свой узрост, а мне ўжо 76 гадоў, мне хочацца быць тут. Бальшавікі ўсё тут пабурылі, але, дзякуй Богу, справядлівасць перамагла".

Хочацца верыць, што на гэты раз перамога гэта будзе канчатковай.

### Імша на Кальварыі

У дзве гадзіны на пагорку Кальварыі, дзе ўсталяваныя тры крыжы, распачалася святая Імша, якую ўзначаліў арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроці. На пачатку Імшы ён пажартаваў, што дыякан даў прагноз: падчас Імшы не будзе дажджу. "Паглядзім, ці спраўдзіцца яго прагноз, – сказаў арцыбіскуп, – але не будзем спакушаць Пана Бога, таму я не буду прамаўляць вельмі доўгае казанне".

У сваім слове да вернікаў ён адзначыў, што мядзельская Кальварыя паўтарае лёс усяго беларускага народа, які некалькі разоў быў на мяжы вынішчэння, але кожны раз адраджаўся.

Нунцый адзначыў, што "гэты Крыжовы шлях, які дастаткова доўгі, з'яўляецца вобразам доўгага пакутлівага шляху беларускага народа. Тры разы будавалася гэтая Кальварыя. Але кожны раз знаходзіліся людзі, якія хацелі яе разбурыць. Будзем спадзявацца, што на гэты раз такога ўжо не здарыцца".

Думку высокага госця падзяляюць і святары, і парафіяне Мядзельскай парафіі. Вікарый парафіі Маці Божай Шкаплернай у Мядзеле айцец Юрый Кулай, у прыватнасці, сказаў: "Будзем спадзявацца, што ўсё у Божых руках, што людзі не будуць паўтараць тых памылак, якія былі ў мінулым. Трэба аднаўляць культ мядзельскай Кальварыі, абуджаць веру народа, каб людзі, калі раптам настане пагроза новага разбурэння, не далі гэтага ўчыніць".

Яго думку пацвердзіла і прадстаўніца маладога пакалення адзінаццацікласніца Кацярына: "Я вельмі спадзяюся, што гэту Кальварыю больш не знішчаць, бо сваю веру мы павінны перадаць сваім будучым дзецям. Бо наша Кальварыя – вельмі вялікая рэч!"

На заканчэнне Імшы арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроці даў мядзельскім вернікам такі наказ: "Вы жывяце ўнізе, паабапал берагоў возера, там вашыя справы, але глядзіце часцей наверх, дзе бачныя тры крыжы на Галгофе". І яшчэ ён адзначыў, што прагноз дыякана спраўдзіўся: дажджу сапраўды не было.

На тэрыторыі Кальварыі застаецца яшчэ шмат працы па добраўпарадкаванні, таму айцы-кармеліты радыя вітаць спонсараў, а таксама тых, хто сваёй працай дапаможа зрабіць яе яшчэ больш прыгожай!



Каталіцкі ВЕСНІК №9(54) верасень 2015 г.

# Што Вы памятаеце з урокаў рэлігіі?

**Распачаўся новы навучальны год, таму Касцёл заклікае дарослых і дзяцей удзельнічаць у катэхезах, каб атрымаць пэўныя рэлігійныя веды. А што Вы запомнілі са сваіх катэхезаў?**

*Ірына Грэйць*



**Аляксандр Дземідовіч:**

– Я хадзіў на катэхезу з пяці гадоў. Праводзілася яна ў кляштары. Манахіні-францішканкі вялі заняткі. Дзесьці з дзесяці гадоў катэхезу пачаў праводзіць святар. Мне вельмі падабалася. Напачатку хтосьці з нас павінен быў прачытаць Евангелле, пра якое будзе распавядацца ў нядзелю. Потым ўсе разам яго абмяркоўвалі, дзяліліся тым, хто як зразумеў і што важнае для сябе вылучыў. Часам глядзелі хрысціянскія фільмы і мульцікі. Гэта ў нас любілі больш за ўсё. За актыўнае наведванне заняткаў і нядзельнай Імшы мы атрымлівалі "плюсікі". Тыя, хто прапускаў толькі па ўважлівых прычынах, у канцы навучальнага года атрымлівалі якія-небудзь падарункі. У мяне дома зараз дзесьці ляжаць два сшыткі. Я думаю, што і цяпер змагу адказаць на любое пытанне з іх. Дзякуй Каталіцкаму Касцёлу за гэтую школу!






**Кс. Уладзіслаў Сурвіла:**

– Добры час быў, калі я хадзіў на катэхезу. Было цікава, калі для цябе расказвалі нешта новае, невядомае. Гледзячы на той перыяд, разумееш, што гэта непаўторны час. Трэба было за некалькі кіламетраў ісці на катэхезу, каб пазнаваць праўды веры. Рыхтаваў мяне да Першай Споведзі і Камуніі айцец Казімір, кармэліт. Заняткі праходзілі ў клубе і школе. Ад гэтых будынкаў цяпер у вёсцы і следу не засталося. Таксама былі заняткі і па хатах. Усе дзеці з вёскі чакалі гэтых спатканняў, прыгадваю, як на іх ішлі. Калі быў у старэйшых класах, трэба было пасля заняткаў заставацца ў школе. Шмат дыскутавалі, вяртаючыся дадому. Калі мне давялося хадзіць на катэхезу, быў пачатак рэлігійнай вольнасці. Тады мы па-новаму спасцігалі свет. Тыя гады паўплывалі на маё пакліканне.






**Аляксей Пякарскі:**

– Калі ўспамінаю свае катэхезы, у мяне заўсёды з'яўляецца ўсмешка на твары. Бо гэты час, які мы праводзілі разам з сябрамі, пазнаючы Бога, быў найлепшым. На пачатку 90-х не было спецыяльных класаў для навучання, таму мы займаліся у касцёле, у плябаніі. Часамі катэхеза праходзіла на прыродзе. Сёстры-дамініканкі, якія праводзілі для нас заняткі, вельмі добра перадавалі праўды веры і былі сапраўднымі сябрамі. Яны на сваім прыкладзе паказвалі, што Езус таксама з'яўляецца нашым сябрам, з Якім мы можам сустракацца ў кожным месцы, дзе знаходзімся. Дзякуючы катэхезе я знайшоў сапраўднага Сябра, які заўсёды са мною, нягледзячы на тое, што я часамі ад Яго адварочваюся. Але я ведаю, што Езус мяне любіць, і я магу заўсёды да Яго вярнуцца...



**Наталля Бурдун:**

– На працягу апошніх чатырох гадоў асноваю майго духоўнага і рэлігійнага выхавання былі катэхезы, якія праводзіліся ў каталіцкім моладзевым цэнтры св. Яна Боска ў Мінску. Разам з кс. Паўлам Шчарбіцкім SDB за гэты час мы закранулі і глыбей пазналі шмат цікавых тэм. Асабіста для мяне пазнавальнымі былі катэхезы, калі мы спрабавалі высветліць, якімі павінны быць адносіны ў сям'і паміж бацькамі, паміж татам і дачкой, мамай і сынам, паміж братамі і сёстрамі. Мне здаецца, што дзякуючы ім, дзякуючы тым дыялогам і спрэчкам, якія ўздымаліся падчас гэтых катэхезаў, многія з тых, хто прысутнічаў на іх, зрабілі пэўныя высновы, каб пасля стаць лепшымі дзецьмі для сваіх бацькоў, а таксама добрымі мужамі, жонкамі, бацькамі альбо матулямі. Сапраўднымі сюрпрызамі для нас былі катэхезы, на якія да нас завітвалі госці, у тым ліку і Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці і былы сакратар Апостальскай Нунцыятуры мансеньёр Філіпа Чампанэлі. Асаблівым чынам закранула мяне катэхеза, якую праводзіў для нас дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Тэмай той катэхезы была Пампейская навэна, альбо, як яе яшчэ называюць, "непераможная малітва". Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB падзяліўся з намі ўласным вопытам практыкавання гэтай малітвы і тымі пераменамі, якія яна ўчыніла ў яго жыцці. 9 кастрычніка 2014 года я распачала сваю першую Пампейскую навэну. Менавіта дзякуючы ёй я змагла заўважыць, як шмат часу маю ў кожным дні і колькі з яго я трачу дарма. Таксама, шукаючы ў кожным дні час на малітву, мне стала лягчэй памятаць пра тое, што Бог заўсёды побач, што Ён са мной у кожную хвіліну майго жыцця.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Што Вы памятаеце з урокаў рэлігіі?**



- Памятаю шмат цікавых рэчаў, якія распавядалі на занятках – 52
- Некаторыя моманты захаваліся ў памяці – 46
- Я не наведваў (-ла) урокі рэлігіі – 15
- Нічога не памятаю з заняткаў – 5

**Усяго:** 118 апытаных



**Сяргей Вільчэўскі:**

– Я навярнуўся ў 21 год. Першая, так скажам, "афіцыйная" падрыхтоўка была ў мінскай катэдры. Я ў сакрэце ад усіх сваіх знаёмых прайшоў сем сустрэч, рыхтуючыся да Першай Споведзі. Потым паспявадаўся і ўпершыню прыняў Цела Хрыста. Я атрымаў вялікую палёгку. Адносна ж майго навучання, узрастання ў веры мне вельмі дапамагла "Школа хрысціянскага жыцця і евангелізацыі". Прыпамінаю яшчэ, што Бог вельмі дзейнічаў падчас сустрэч, якія называюцца "Альфа курсы". На гэтых сустрэчах была добрая атмасфера: знаёмствы, праслухоўванне канферэнцыі, потым група абмяркавання. За ўвесь час іх правядзення я чуў там шмат аповедаў, гісторый, сведчанняў. Сам зараз маю дыплом катэхета.



**Алена Мілюк:**

– На катэхезу я пачала хадзіць пры касцёле св. Вацлава ў Ваўкавыску. Мне было дзесьці 7-8 гадоў. Першае ўражанне звязана з сястрою Віялетай, што вяла ў нас заняткі. Нават зараз успамінаю яе добры, цёплы позірк. Я тады рыхтавалася да Першай Камуніі. Скажу шчыра, што самым цікавым на занятках тады былі цацкі, а думкі часта блукалі дзесьці далёка. Аднак больш цікавымі за цацкі былі песні – спяваць Богу падабалася! Успамін пазнейшага часу – шасцёркі з вочкамі і вушамі, якія мы атрымлівалі за малюнкі. У школе такога не было, а тут жыла нейкая іншая, Божая шкала ☺. З гэтага часу я чамусьці запомніла, як Бог тры разы клікаў Самуэля, калі ён спаў. Мабыць, і я чакала, што Ён мяне вось так возьме і ноччу пакліча ☺. Падлеткавы час – гэта сустрэчы марыянак. Было вельмі добра: рыхтавалі разважанні да спатканняў, спявалі. Я ўдзячная нашаму пробашчу а. Антонію Філіпчыку за гэтыя катэхезы. А тым, хто распачынае катэхетычны год, жадаю цікавага падарожжа па Святым Пісанні і сяброў у Хрысце.

### Віншуем! Хвала Хрысту!



*Віншуем з Днём нараджэння шаноўнага **ксяндза-пробашча Славаміра Самковіча**.*

*Бог шчодра надзяліў нашага святара талентам тварыць, упрыгожваць. За пяць месяцаў яго душпастырства у Пагошчанскай парафіі наш касцёл стаў асяродкам глыбокай пабожнасці і культуры. Мы вельмі рады, што нам так пашчасціла, і дзякуем Пану Богу за яго.*

*Дзякуючы яго намаганням, уменню і цярплівасці наш Божы храм становіцца ўсё больш прыгожым і ўтульным. Дзякуем за клопат, за ласку і дабрыню, за тое, што вучыць любіць Бога і бліжняга, за ўсё, што робіць для нашай святыні.*

*Паважаны ксёндз Славамір! З нагоды Дня нараджэння дасылаем Вам самыя шчырыя пажаданні!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Божай Міласэрнасці, агр. Пагошча (Браслаўскі р-н)***



# Ружанец – невядомая малітва?

**Ружанец – гэта настолькі інтэгральная частка рэлігійнай рэчаіснасці Каталіцкага Касцёла, што часта з'яўляецца наўпрост візітоўкай католіка і "каталіцкасці".**

■ **а. Андрэй Буйніч**, *a.buinich@gmail.com*

Чоткі-каронку для ружанцовай малітвы часта можна пабачыць у аўтамабілях як сімвал веравызнання ўладальніка машыны. Часамі здаралася нават бачыць у галівудскіх фільмах персанажаў, якія паводле сцэнарыя з'яўляюцца католікамі. Гледачы гэта лёгка маглі распазнаць па ружанцах на шыях акцёраў. Такім чынам, ружанец (або больш дакладна – каронка, чоткі да ружанцовай малітвы) ёсць вельмі пазнавальным знакам прыналежнасці да Каталіцкага Касцёла.

Разам з гэтым ва ўяўленні некаторых маладых католікаў ружанец з'яўляецца сімвалам закасцянеласці, кансерватызму. Паводле іх, ружанцовая малітва – гэта механічная малітва бабуль, якія нібы праз сваю абмежаванасць не здатныя на разумовую рэфлексію. Такое меркаванне вынікае з неразумення, чым з'яўляецца ружанцовая малітва ды малітва ўвогуле. На жаль, гэтаму памылковаму бачанню паспрыяла таксама тое, што ружанец стаў публічнай малітвай – г.зн. малітвай, якая адмаўляецца супольна групай вернікаў (што само па сабе, канечне, нядрэнна). Аднак гэты фактар "публічнасці" выцесніў іншы, больш важны аспект ружанцовай малітвы – індывідуальны. Дык якой павінна быць ружанцовая малітва? Перад тым, як адказаць на гэтае пытанне, давайце звернемся да гісторыі яе паўстання.

## Інструмент падліку малітваў

Часта даводзілася чуць ад вернікаў, якія распавядалі іншым пра ўзнікненне ружанца, што гэта Маці Божая дала такое малітоўнае правіла св. Дамініку. Сапраўды, у апісанні жыцця св. Дамініка сустракаем факт з'яўлення яму ў 1214 г. Найсвяцейшай Дзевы Марыі ды ўручэнне ружанца, але гэта вельмі спрошчанае тлумачэнне. Апавяданне пра св. Дамініка, заснавальніка дамініканскага ордэна і несумненнага папулярызатара ружанца, – гэта прыгожая гісторыя, якая мае права на існаванне. Аднак каб зразумець, адкуль узялася ружанцовая малітва, трэба зазірнуць яшчэ глыбей.

Сама каронка, чоткі для малітвы або малітоўны шнурок не з'яўляюцца выключна атрыбутыкай хрысціянскай веры. Каронка-чоткі сустракаецца ў многіх сусветных рэлігіях як інструмент для падліку малітваў. Ва ўсіх гэтых выпадках чоткі-каронкі ўзніклі натуральным чынам у адказ на духоўныя патрэбы іх адэптаў. Падобнае адбылося і ў хрысціянстве. Ад моманту з'яўлення хрысціянскага манаства ў Егіпце ў III-м стагоддзі перад аскетамі, якія намагаліся рэалізаваць наказ св. Апостала Паўла аб нястомнай малітве (гл. 1 Тэс. 5:4), паўстала практычнае пытанне: як кантраляваць колькасць сваіх малітваў, каб захаваць рэгулярнасць уласнага малітоўнага жыцця? З гэтай мэтай пустэльнікі пачалі выкарыстоўваць каменьчыкі, якія перакладвалі з адной чашы да другой, такім чынам лічачы ды кантралюючы колькасць малітваў. Вельмі хутка прыдумалі таксама завязваць адпаведную колькасць вузельчыкаў на вяроўцы ды лічыць іх... Далей, як гаворыцца, справа тэхнікі.

Трэба адзначыць, што на чотках-каронцы адгаворвалі розныя малітвы, першая з якіх была "Ойча наш". Дарэчы сама беларуская назва "пацеркі", "пацеры" паходзіць ад лацінскай назвы малітвы "Ойча наш" – *Pater noster*. З часам з чоткамі спалучылася іншая малітоўная традыцыя – разважанне над Божым словам. Справа ў тым, што не ўсе манахі і не заўсёды мелі магчымасць чытаць Біблію, таму, наведваючы храм і слухаючы Божае слова, якое там чыталася, яны запаміналі верш, які найбольш кранаў іх сэрца – гэта быў пачатак своеасаблівага *lectio divino*. Напрыклад, для св. Яна Касьяна, з якога паходзіць і Усходняя і Заходняя традыцыя, такім улюбёным вершам быў "Божа, на ўспамогу мне накіруйся; Госпадзе, паспяшайся, каб падтрымаць мяне" (Пс. 70 (69): 2). Такія вершы станавіліся прадметам нястомнага разважання і інтэрыярызацыі (унутранага засвойвання), іншымі словамі, вершы Святога Пісання станавіліся асабістай малітвай аскета.

На падставе любімых біблійных вершаў манахі складалі таксама свае кароткія малітвы – "малітаўкі". "Малітаўкі" былі тыповай з'явай для сінайскай пабожнасці, якая адрознівалася асаблівым стаўленнем да Божага імя. І гэта зразумела, калі мы ўзгадаем, што сінайскі манастыр св. Кацярыны размешчаны на месцы Незгаральнага Куста, дзе Госпад Бог абвясціў сваё Імя Майсею. Сінайскія манахі развівалі практыку кароткіх "малітавак" да Езуса, якія выказвалі веру ў сілу Яго Імя. Гэтыя практыкі паўплывалі пазней на ўзнікненне "Езусавай малітвы", што можа быць прадметам асобных разважанняў.

## Дзеі малітоўнага шнурка на Захадзе

З цягам часу манаства пачало распаўсюджвацца на Захадзе, а разам з ім і пабожныя практыкі ды самі чоткі-каронка. Іх знешні выгляд быў далёкі ад сучаснага. Найстарэйшая выява ружанца паходзіць з XIII стагоддзя. На ёй бачныя 158 пацерак.

Першым крокам да сучаснай формы ружанца стала традыцыя шматразовага паўтарэння малітвы "Вітай, Марыя", якая была скампанавана з фрагментаў Евангелля (Лк.1:48 і Лк.1:42). Гэтая практыка была вельмі папулярная ў Сярэднявеччы. Звычайна прамаўлялі 150 такіх малітваў, па колькасці псальмаў у Псалтыры. Тым жа, хто прыдумаў падзел на таямніцы, быў Дамінік Прус – картузскі манах з кляштара г. Трыр (Нямеччына). У 1409 ён падзяліў жыццё Езуса і Багародзіцы на 50 таямніц, якія былі згрупаваныя па 5 дзясяткаў (ад *Дабравешчання да Другога прыйсця Езуса ў славе)*.

Сучасная форма ружанца ўсталявалася ў 1470-х гадах праз дамініканцаў Алана Рупскага і Якуба Шпрэнгера і была ўпершыню надрукаваная ў 1481 годзе. У 1520 годзе яна зацверджаная Папам Львом X і названая *Ружанцам Блаславёнай Дзевы Марыі*. Адкуль жа паходзіць назва "ружанец" – *rosarium* (сад руж)? Ёсць розныя версіі, якія тлумачаць паходжанне гэтай назвы. Напрыклад, што малітвы ружанца – гэта нібы вяночак з руж, які мы ахвяруем Багародзіцы. Самая экзатычная версія гаворыць, што гэта назва прыйшла з Далёкага Усходу, з будызму. Там чоткі-каронка называецца *japamala* – вянок з малітваў або вянок з руж.

## Апісанне сучаснай ружанцовай малітвы

Увесь ружанец ахоплівае 20 падзей ці таямніцаў, з якіх 5 радасных (Раство і дзяцінства Езуса Хрыста), 5 таямніц святла (яны тычацца публічнай дзейнасці Езуса Хрыста), 5 балесных таямніцаў (у іх узгадваем пакуты і смерць Госпада), і 5 слаўных (у якіх разважаем пра вечную славу Езуса і Багародзіцы на нябёсах). Такім чынам, ружанец дзеліцца на 4 часткі, кожная з якіх утрымлівае па пяць тэм для разважанняў, названых "таямніцамі" або евангельскімі медытацыямі.

Вядома, што асноўнымі малітвамі ружанца з'яўляюцца "Ойча наш" і "Вітай, Мырыя". Хачу асаблівую ўвагу звярнуць на "Вітай, Мырыя". Гэтая малітва ў лацінскай традыцыі прыняла канчатковую форму пры Св. Пію V і была надрукаваная ў Брэвіярыі ў 1568 годзе. Да гэтага хрысціяне на Захадзе выкарыстоўвалі кароткую форму, падобную да той, якой карыстаюцца вернікі візантыйскай традыцыі. Ва ўсходняй традыцыі гэта малітва называецца "Багародзіца Дзева". Вось яе тэкст:

*Багародзіца, Дзева, радуйся!*
*Ласкі поўная Марыя, Госпад з Табою,*
*Блаславёная Ты між жанчынаў,*
*І блаславёны плод улоння Твайго,*
*Бо Ты нарадзіла Збавіцеля душ нашых.*

Лёгка заўважыць, што да слоў *"і блаславёны плод улоння Твайго"* малітвы супадаюць. Абедзве формы годныя выкарыстання ў ружанцовай малітве.

Дарэчы, ў Праваслаўнай Царкве ружанец таксама вядомы, але пад іншай назвай – "Багародзічнае правіла". На таямніцы выбраныя крыху іншыя падзеі, якія адпавядаюць царкоўным Багародзічным святам ва ўсходнім календары. Вядомы праваслаўны святы Серафім Сароўскі быў вялікім прыхільнікам "Багародзічнага правіла".

## Метад малітвы ружанцам паводле Яна Паўла II

Вялікі Папа Ян Павел II напісаў выдатны апостальскі ліст *Rosarium virginis Mariae*, які можна смела назваць адным з найлепшых падручнікаў ружанцовай малітвы. Папа ў сваім лісце звяртае ўвагу на "дзейсны метад", бо "няма нічога дзіўнага ў тым, што ўзаемаадносіны з Хрыстом можна ўсталяваць пры дапамозе нейкага канкрэтнага метаду" (RVM 27). Ян Павел II вылучае ў метадзе наступныя ключавыя моманты:

***Аб'яўленне таямніцы.*** У такі момант мы ўзгадваем евангельскую падзею. Папа робіць важную заўвагу, што абвяшчэнне розных таямніцаў ружанца "не замяняе Евангелля і нават не паўтарае ўсіх яго старонак. Такім чынам, ружанец не замяняе *lectio divina*, а наадварот, прадугледжвае яго і спрыяе яму". Гэта павучанне азначае, што ружанцовую малітву нельга аддзяліць ад рэгулярнага чытання Евангелля ды ўвогуле ад сакрамантальнага жыцця ў Касцёле.

***Слуханне Слова Божага.*** На гэтым этапе мы разважаем над евангельскай падзеяй і суаднosім Слова Божае, якое да нас звернута праз яе, са сваім жыццём. Папа засяроджвае ўвагу, што часам варта звярнуцца на гэтым этапе непасрэдна да біблейскай тэксту (пар. RVM 30).

***Маўчанне.*** Маўчанне з'яўляецца неабходным элементам малітвы, бо Бог адказвае чалавеку ў маўчанні, у цішы нашага сэрца. Маўчанне – гэта пачатак сузірання, пачатак чыстай малітвы...

Наступны этап:

***"Ойча наш" і дзесяць малітваў "Вітай, Марыя"*** ("Багародзіца Дзева, радуйся") з'яўляюцца інтраспектыўным элементам малітвы.

Потым:

***"Хвала Айцу, і Сыну, і Духу Святому..."*** – такім малым славаслоўем мы закрываем "дзясятку" і дадаём "заключнае ўсклікание".

***Заключнае ўзнёслае ўсклікание*** – гэта, як правіла, кароткая малітва, якая можа вар'іравацца ў залежнасці ад мясцовых звычаяў (пар. RVM 30). Папа робіць акцэнт на тым, што нам варта клапаціцца, каб гэта была малітва-просьба пра здабыццё духоўных пладоў ад разважання над дадзенай таямніцай. Мова ідзе пра кароткую рэфлексію над зместам дадзенай таямніцы, якая можа выліцца ў кароткую спантанную малітву сваімі словамі.

Нават на падставе апісання самога метаду малітвы можна яшчэ раз сцвердзіць, што ружанец – гэта індывідуальная, асабістая малітва, якая мае глыбокі інтраспектыўны і біблійны характар, і ў гэтым яна падобная да Езусавай малітвы, малітвы сэрца (пар. Rosarium Virginis Mariae 5). Ружанец можа стаць сапраўднай школай малітвы для таго, хто рупліва будзе прытрымлівацца апісанага метаду. У гэтай школе вучань пройдзе шматлікія ўзроўні малітвы, пачынаючы ад малітвы словамі, праз медытацыю да сузірання.



# Як развіваўся беларускі біблейскі пераклад?

**Улетку госцем Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане быў ксёндз Сяргей Сурыновіч – пробашч парафіі Святой Тройцы ў мястэчку Друя, што на мяжы з Латвіяй. Ксёндз Сурыновіч – біблеіст, вядомы сваімі даследаваннямі ў галіне біблейных перакладаў, а таксама публіцыст і паэт. Мы распыталі ў яго пра мэты візіту і вынікі. Адказы святара і здзівілі, і парадавалі.**



– У Лондане я ўжо другі раз. Летась выступіў тут з дакладам для суайчыннікаў пра беларускія пераклады Бібліі ў ХХ стагоддзі. Яшчэ да прыезду я чуў пра бібліятэку і нават карыстаўся яе матэрыяламі, якія для мяне капіявалі іншыя карыстальнікі Скарынаўкі. А калі дабраўся да Лондана сам, то зразумеў, што тут ёсць больш, чым я нават чакаў знайсці. Напрыклад, я натрапіў на перапіску перакладчыка Бібліі Янкі Станкевіча з біскупам Чэславам Сіповічам, у якой яны абмяркоўвалі метадалогію біблейнага перакладу і беларускую біблейную лексіку. Сярод тых лістоў ёсць адзін, дзе Станкевіч, магчыма, упершыню, выкладае свае прынцыпы словаўтварэння. Яго мова арыгінальная, часам яе называюць метамовай. І вось у гэтым лісце можна ад самога аўтара даведацца пра метадалагічныя прынцыпы, якімі ён карыстаўся. Лісты чакаюць свайго даследчыка, яны будуць выдатным матэрыялам для цікавай навуковай працы таму, хто возьмецца іх прааналізаваць. Найперш, бадай, гэта праца для лінгвіста, а не біблеіста.

Навучаны досведам, гэтым разам я прыехаў з чаканнем адкрыцця – з эмоцыямі, з якімі, мабыць, выпраўляўся Калумб у сваё падарожжа. І мае чаканні спраўдзіліся. Я знайшоў машынапіс перакладу Новага Запавету (акрамя першых пяці кніг) кс. Чарняўскага. Гэты тэкст і раней быў даступны ў інтэрнэце, пазначаны як арыгінал, але калі я параўнаў тэксты, то аказалася, што яны крыху розняцца. Той, хто выставіў тэкст у інтэрнэт, папярэдне адрэдагаваў яго. У Скарынаўцы ж можна пабачыць пераклад такім, якім зрабіў яго сам аўтар.

У ХХ стагоддзі наша традыцыя біблейных перакладаў развівалася вельмі імкліва. Усё, напэўна, пачыналася з 1912 года, ад перакладаў евангельскіх урыўкаў і казанняў Ільдэфонса Бобіча. Да Другой сусветнай вайны было багата зацікаўленасці ў перакладах у пратэстанцкім асяродку (Лукаш Дзекуць-Малей), таксама сярод каталікоў (Адам Станкевіч, Ільдэфонс Бобіч, Вінцэнт Гадлеўскі). Пасля ж вайны ў Беларусі ўтварылася пройма, біблейнае маўчанне, якое трывала, аж пакуль кс. Уладзіслаў Чарняўскі не пачаў рабіць свой пераклад. Гэты перыяд 1940-60-х гадоў, калі біблеісты Беларусі маўчалі, быў цалкам плённы для нашай дыяспары. Святары Леў Гарошка і Язэп Германовіч рабілі пераклады ў Лондане, кс. Пётра Татарыновіч працаваў у Рыме, у ЗША – Янка Станкевіч, перакладалі таксама Ян Пятроўскі і Леанід Галяк. Гэтая традыцыя была працягнутая ў 1970-я перакладамі Клышкі і Сёмухі, а пазней – працай літургічных камісій Царквы у Беларусі.

Часам ствараецца ўражанне, што беларускія перакладчыкі і біблеісты перакананыя, што пачынаюць працу на пустым месцы, а гэта вялікая памылка. Каб новы, сучасны пераклад Бібліі адгукнуўся на сённяшнія патрэбы, трэба ўлічыць усе папярэднія спробы і будаваць яго не толькі на дасягненнях сучаснага навуковага свету (што, безумоўна, вельмі важна), але і на спадчыне папярэднікаў. Нават калі быў пераклад усяго толькі адной кнігі – гэта досвед, варты вывучэння. А такіх перакладчыкаў у ХХ стагоддзі набіраецца амаль два дзясяткі. Гэта, дарэчы, шмат, асабліва ў параўнанні з нашымі суседзямі: у тых жа літоўцаў і палякаў вопыт біблейнага перакладу ў мінулым стагоддзі меншы, чым у беларусаў. На жаль, большасць перакладаў былі забытыя або праігнараваныя, таму дагэтуль недастаткова ўведзеныя ў навуковы ўжытак.

Аднак трэба аддаць належнае і таму факту, што ўжо не адзінкі працуюць над вяртаннем нашай біблейнай спадчыны – цяпер гэта ўжо сапраўдны працэс. Усіх намаганняў тут не пералічыш, агучу два праекты, да якіх я маю дачыненне. У 2004 г. я сабраў валанцёраў у розных месцах Беларусі, і мы чатыры гады аблічбоўвалі, вычытвалі і набіралі вядомыя нам тады тэксты біблейных перакладаў. Вынікі гэтай працы даступныя на сайце "Часасловец" а. Аляксандра Аўдзеюка, які таксама зрабіў вялікую працу па аблічбаванні тэкстаў і склаў бібліяграфіі перакладчыкаў. На аснове гэтых тэкстаў я цяпер рыхтую слоўнік уласных імёнаў і геаграфічных назваў Новага Запавету. Ён будзе таксама ўключаць сімфонію па перакладчыках, каб лёгка было пабачыць, як розныя аўтары перакладалі гэтае лексічнае кола. Зробленае стане дапаможным матэрыялам для будучых перакладчыкаў, каб цяпер ужо не пачынаць усё з нуля.

І хоць такіх прыкладаў можна падаць нямала, усё ж гісторыя і традыцыя беларускіх біблейных перакладаў – толькі часткова распрацаваная тэма дагэтуль. Тут не аднаму даследчыку ёсць што пашукаць, пачытаць і прааналізаваць. Скарынаўская бібліятэка заўсёды будзе ключавой установай для такіх даследаванняў, яна перліна ў мазаіцы беларускай біблеістыкі, цэлы пласт якой захаваўся тут: выданні Бобіча, Гадлеўскага, Татарыновіча, рукапісы Галяка, Станкевіча, Пятроўскага. Нават ранейшыя выданні Дзекуць-Малея, якія не захаваліся ў Беларусі. Бібліятэка ўнікальная: як толькі пачынаеш нешта шукаць тут, натыкаешся на нечаканыя матэрыялы з самых розных галінаў. Будзе цудоўна, калі Скарынаўка зможа і надалей развіваць кантакты з установамі і даследчыкамі ў Беларусі, каб уводзіць нашы скарбы ў агульнабеларускі дыскурс.

*Запісаў **Ігар Іваноў***
*для budzma.by*

## Як правільна па-беларуску: БОЛЬШ (МЕНШ) ПЯЦІ ГАДОЎ ці БОЛЬШ (МЕНШ) ЗА ПЯЦЬ ГАДОЎ?

**Спалучэнні з элементамі ступеняў параўнання прыметнікаў ці прыслоўяў выклікаюць значныя цяжкасці пры іх выкарыстанні на практыцы. У адных выпадках адсутнічае прыназоўнікавая ці злучнікавая канструкцыя, а ў іншых яна ёсць. А як павінна быць згодна з нормамі беларускай літаратурнай мовы?**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Праблема датычыць, зразумела, не толькі вынесеных у загаловак спалучэнняў. Тая ж дылема паўстае перад многімі беларускамоўнымі аўтарамі, моўнікамі пры выбары варыянтаў, напрыклад, *сястра старэй брата* ці *сястра старэйшая за брата* або *пайсці далей усіх* ці *пайсці далей за ўсіх*. Блытаніны дадаюць і сродкі масавай інфармацыі, якія далёка не заўсёды прытрымліваюцца правільных формаў названых спалучэнняў.

Варта памятаць, што пры наяўнасці ступеняў параўнання прыметнікаў ці прыслоўяў у беларускай мове не можа быць беспрыназоўнікавай ці бяззлучнікавай канструкцыі. Таму ў наступных мікракантэкстах з газеты "Звязда" дапушчаны грубыя сінтаксічныя памылкі: ***Ніжэй бюджэту*** *пражытковага мінімуму...* (22.10.10); *Радыяцыя на турбінным адсеку "Фукусімы" ў 10000 разоў* ***больш нормы*** (26.03.11); *Для захоўвання кавы* ***не больш тыдня*** *адмысловых захадаў рабіць не трэба...* (10.09.11); *Уся канструкцыя ўсталяваная на глыбінях ад 30 да некалькіх сотняў метраў* ***ніжэй паверхні*** *зямлі на адмысловых вальфрамавых стрыжнях...* (18.10.11). Найчасцей у падобных выпадках будуецца словазлучэнне з прыназоўнікам **за** або злучнікам **чым**. Напрыклад: *ён ведае* ***больш за мяне*** або ***больш, чым я*** (нельга сказаць ***больш мяне***). Часам можна ўбачыць канструкцыі з прыназоўнікам ад і злучнікам як, што таксама не супярэчыць літаратурным нормам: *ён ведае лепш ад мяне* або *ён ведае лепш, як я*. Але названыя спалучэнні хоць і нарматыўныя, усё ж не атрымалі шырокага распаўсюджання ў мове. Таму ў прыведзеных вышэй газетных фрагментах найбольш пажаданай формай будзе адпаведна **ніжэй за бюджэт**, **больш за норму**, **не больш за тыдзень**, **ніжэй за паверхню**.

Звернем таксама ўвагу, што нярэдка можна пачуць з вуснаў дыктараў радыё ці тэлебачання фразу кшталту *тэмпература паветра – дваццаць градусаў вышэй (ніжэй) нуля*. Зразумела, што і тут дапускаецца памылка, а сам сказ будуецца на ўзор рускай мовы – без прыназоўніка ці злучніка. Вядомы наш лінгвіст, выдатны знаўца культуры беларускага слова Алесь Каўрус заўважае, што "выраз **тэмпература вышэй за нуль** мае пад сабою і "тэхнічны" грунт. Тэмпература вымяраецца тэрмометрам (градуснікам). На тэмпературнай шкале Цэльсія, якую мы ўяўляем як вертыкальна размешчаную, дадзены лічбы (градусы), што ідуць ад нуля двума кірункамі: 1) падымаюцца вышэй за нуль (таму: *тэмпература вышэй за нуль, 20 градусаў вышэй за нуль*); 2) апускаюцца ніжэй за нуль (таму: *тэмпература ніжэй за нуль, 20 градусаў ніжэй за нуль*) (Каўрус А.А. Да свайго слова. Пытанні культуры мовы. – Мінск, 2011. – С. 93). Таму не можа быць *вышэй (ніжэй) нуля*.

Такім чынам, адказваючы на пастаўленае ў загалоўку пытанне, выбіраем у якасці правільнага варыянта канструкцыю **больш (менш) за пяць гадоў**.

# Ці можа католік удзельнічаць у палітычным жыцці краіны?

*"Ці можна католікам уваходзіць у якую-небудзь палітычную партыю і насіць нейкія знакі прыналежнасці да яе?"*
*Ірына*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– "Дактрынальная нота" адносна некаторых пытанняў удзелу каталікоў у палітычным жыцці, выдадзеная Кангрэгацыяй веравучэння ў 2002 годзе, звяртае ўвагу на тое, што "ўдзел хрысціянаў у жыцці свету за дзве тысячы гадоў набыў розныя формы. Адной з іх з'яўляецца ўдзел у палітычнай дзейнасці". Св. Ян Павел ІІ у апостальскім звароце "Christifideles laici" сцвярджае: "Вернікі-свецкія не могуць зусім адмовіцца ад удзелу ў "палітыцы", гэта значыць у рознага кшталту эканамічнай, сацыяльнай, заканадаўчай, адміністрацыйнай і культурнай дзейнасці, арганічна і інстытуцыйна прызначанай спрыяць агульнаму дабру". Разам з тым "Дактрынальная нота" нагадвае ўмовы ўдзелу верніка ў палітычным жыцці: "Хрысціянскае сумленне не дазваляе чалавеку галасаваць за прыняцце палітычнай праграмы або законапраекту, якія альтэрнатыўнымі прапановамі падрываюць фундаментальныя аспекты веравучэння і маральнасці або супярэчаць ім. Хрысціянская вера ўяўляе сабой непарыўнае адзінства, і, такім чынам, нелагічна аддзяляць ад яе які-небудзь элемент ва ўрон усяму каталіцкаму веравучэнню. Прыхільнасць палітыкаў да пэўнага аспекту сацыяльнага вучэння Касцёла не здымае адказнасці верніка перад агульным дабром. Католік не можа думаць аб тым, каб перакласці хрысціянскую адказнасць на іншых, бо менавіта на яго Евангелле Езуса Хрыста накладае задачу абвяшчаць і ператвараць у жыццё праўду пра чалавека і свет. Калі палітыка накіравана супраць маральных прынцыпаў, якія не дапускаюць парушэнняў, выключэнняў і кампрамісаў, удзел у ёй каталікоў павінен быць больш яўным і адказным. Хрысціяне перад тварам фундаментальных і неад'емных патрабаванняў этыкі павінны прызнаць, што на карту пастаўлена само існаванне маральнага закона, звязанага з усеагульным дабром чалавечай асобы".

> **Папа Францішак: "Можа католік займацца палітыкай? Не толькі можа, але і павінен. Можа католік умешвацца ў палітыку? Павінен!"**

30 красавіка 2015 года на сустрэчы з прадстаўнікамі "Абшчыны хрысціянскага жыцця" і "Студэнцкай місіянерскай лігі" Папа Францішак таксама закрануў тэму ўдзелу вернікаў у палітычным жыцці. "Можа католік займацца палітыкай? Не толькі можа, але і павінен. Можа католік умешвацца ў палітыку? Павінен!", – сказаў Папа. Пантыфік таксама падкрэсліў, што ўдзел у палітыцы – гэта свайго кшталту мучаніцтва, бо патрабуе штодзённай вернасці ідэалу агульнага дабра і нясення цяжкага крыжа, звязанага з паразамі і грахамі. "Складана рабіць дабро сярод грамадства і не запэцкаць рукі ці сэрца: таму ідзі, каб папрасіць прабачэння, прасі прабачэння і працягвай працаваць", – заклікаў Пантыфік.



Як бачым, удзел католіка ў дзейнасці палітычнай партыі не толькі дапускаецца, але і заахвочваецца, пры ўмове, што дадзеная палітычная сіла ў сваёй дзейнасці ставіць мэты, якія не супярэчаць маральнаму вучэнню Каталіцкага Касцёла і накіраваныя на пабудову справядлівага грамадства ў адпаведнасці з каталіцкім сацыяльным вучэннем. Нашэнне ж знакаў прыналежнасці да палітычнай партыі – гэта асабістая справа кожнага чалавека, калі гэтыя знакі не дэманструюць антыхрысціянскія погляды.

## Праваслаўны святар ахрысціў паўторна майго сына-католіка. Хто мой сын па веравызнанні?

*"Добры дзень! Я католік паводле веравызнання. 4 жніўня 2006 года ажаніўся з Таццянай Б. (праваслаўнай). 1 кастрычніка 2008 года ў нас нарадзіўся сын Станіслаў. 6 ліпеня 2009 года ў касцёле святога Станіслава ў Магілёве мы пахрысцілі сына і самі ўзялі шлюб. Ёсць сведкі, фотаздымкі. Ніхто не быў супраць, ніхто нікога не прымушаў. Пасля мы сваёй сям'ёй хадзілі ў касцёл на святы і не толькі. Вясной 2012 года я даведаўся, што жонка сустракаецца з іншым і мне здраджвае не першы год. Сыну на той момант было тры з паловай гады. Давялося брацць развод. 24 жніўня ён адбыўся. А праз месяц Таццяна выйшла замуж за іншага. Праз некаторы час я даведаўся, што сына хрысцілі ў Праваслаўнай царкве. Хлопчыку было на той момант каля пяці гадоў. Растлумачце, калі ласка, як гэта магчыма? І што мне рабіць: хто мой сын Станіслаў па веравызнанні? Які грэх узяла на сябе Таццяна? Вялікі дзякуй. Чакаю адказу."*
*Андрэй*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– З пункту гледжання Каталіцкага Касцёла Ваш сын, безумоўна, католік. З прыняццем сакраманту хросту ён стаў паўнапраўным членам Хрыстовага Касцёла, і "перахрышчванне" не мае ніякага сэнсу. У адпаведнасці з вучэннем Каталіцкага Касцёла, прыняць сакрамант хросту можа кожны чалавек пры ўмове, што ён яшчэ не быў ахрышчаны ("Кодэкс кананічнага права", кан. 864; "Катэхізіс Каталіцкага Касцёла", 1246). Згодна з кан. 29 "Кодэкса канонаў усходніх цэркваў", "дзіця перад чатырнаццатым годам жыцця праз хрышчэнне запісваецца да Касцёла свайго права, да якога запісаны яго бацька".



Такім чынам, паважаны Андрэй, паўторнае хрышчэнне Вашага сына не мае ні значэння, ні сэнсу, паколькі ён ужо прыняў гэты сакрамант у Каталіцкім Касцёле. Таксама хросныя бацькі застаюцца надалей хроснымі бацькамі і маюць абавязак маліцца за свайго духоўнага сына і дбаць пра яго каталіцкае выхаванне.

Той жа факт, што праваслаўны святар паўторна ахрысціў ахрышчанага католіка, можа азначаць, што або Вашая жонка схавала ад яго праўду пра хрышчэнне, або няведанне святаром пазіцыі сваёй Царквы, паколькі "Праваслаўная і Рыма-Каталіцкая Цэрквы маюць аднолькавае вучэнне пра Святыя сакраманты і ўзаемна прызнаюць сапраўднасць гэтых сакрамантаў, што здзяйсняюцца ў іх" (цытата з "Тлумачэння старшыні Аддзела знешніх царкоўных зносінаў Маскоўскага Патрыярхата мітрапаліта Нікадзіма аб беззабаронным дапушчэнні да Святых сакрамантаў старавераў і каталікоў"). Магчыма таксама, што святар не хрысціў паўторна, а ўдзяліў Вашаму сыну сакрамант мірапамазання (бежмавання), які ў візантыйскай традыцыі ўдзяляецца разам з хростам. У любым выпадку Ваш сын застаецца католікам, а акрамя гэтага ён ужо мірапамазаны, таму паўторна ўдзяляць бежмаванне яму не трэба.




## Ці з'яўляецца гомасексуалізм грахом?

*"Ці з'яўляецца гомасексуалізм грахом?"*
*Павел*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Адносна гомасексуалізму "Катэхізіс Каталіцкага Касцёла" дае выразны адказ. "Гомасексуалізм азначае адносіны паміж мужчынамі ці жанчынамі, якія адчуваюць сексуальную цягу, выключную ці пераважную, да асобаў аднаго з імі полу. Абапіраючыся на Святое Пісанне, якое прадстаўляе гомасексуальныя дзеянні як цяжкую форму распусты, Святая Традыцыя нязменна аб'яўляе "гомасексуальныя акты безумоўна беззаконнымі". Яны супярэчаць прыроднаму закону, пазбаўляюць палавы акт яго функцыі даравання жыцця. Яны не выцякаюць з сапраўднай эмацыйнай і сексуальнай узаемадапаўняльнасці. Ні ў якім разе яны не могуць быць адобраны" (ККК 2357).

Разам з тым неабходна адрозніваць грэх гомасексуалізму і гомасексуальную схільнасць. Наяўнасць сексуальнай цягі да асобаў свайго полу не з'яўляецца грахом. Як зазначаецца ў Катэхізісе, "даволі значная колькасць мужчын і жанчын мае прыроджаную тэндэнцыю да гомасексуалізму. Гэтыя людзі не зрабілі свядомага выбару на карысць гомасексуалізму; для большасці з іх гэты стан з'яўляецца цяжкім выпрабаваннем. Да іх трэба ставіцца з павагай, спачуваннем і тактоўнасцю. Трэба пазбягаць у адносінах да іх усякіх праяваў несправядлівай дыскрымінацыі" (ККК 2358). Грахом у дадзеным выпадку з'яўляюцца дзеянні сексуальнага характару, у тым ліку прагляд парнаграфіі, эратычныя фантазіі і г.д. "Людзі, схільныя да гомасексуалізму, пакліканы да цнатлівасці. Дзякуючы дабрадзейнасці самавалодання, што выхоўвае ўнутраную свабоду, часам з дапамогай бескарыслівага сяброўства, малітвы і ласкі сакрамантаў гэтыя людзі могуць і павінны паступова і рашуча набліжацца да хрысціянскай дасканаласці" (ККК 2359).

